


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

14 ліпеня 2000 года

№ 28 (273)
Цана ў розніцу 76 рублёў

ТУ ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Ветэранам – сталінскі медаль

ВІЛЕЙКА. Шасцідзесяці ветэранам апошняй вайны і камуністычнай партыі ўручылі медалі да 120–годдзя з дня нараджэння Сталіна. Уручэнне ў сталоўцы "Вяснянка" правёў дэпутат сённяшняга парламента **Уладзімір Варашнін**. Медалі адчаканеныя ў Маскве, пасведчанні падпісала **Сажы Умалатава**.
Былі "чарка і шкварка", а таксама пажаданні абраць дэпутатам у парламент наступнага склікання намесніка старшыні райвыканкома **Пятра Юдо**. Да зліцця горада і раёна Пётр Юдо кіраваў гарадскім выканаўчым камітэтам.

**Аддзел інфармацыі.**

### Ліцэй займеў уласную пякарню

МЯДЗЕЛ. У вёсцы Камарова, дзе месціцца Свірскі прафесіянальны тэхнічны ліцэй, адкрылася сучасная хлебапякарня. Яе падарылі ліцэю нямецкія сябры з зямлі Паўночны Рэйн–Вестфалія.
У Камарове ўжо дзейнічаюць кілбасны і швейны цэхі, станцыя тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў, на гаспадарчым разліку працуе сталовая.

**Іван КІЁК.**

### Перазарадзіце вогнетушыцель

АШМЯНЫ. У мясцовым аддзяленні добраахвотнага пажарнага таварыства адкрыўся цэх па перазарадцы вогнетушыцеляў. Ён будзе абслугоўваць сумежныя раёны: Ашмянскі, Астравецкі і Смаргонскі. Раней бліжэйшыя пункты перазарадкі знаходзіліся ў Навагрудку і Гродне.

**Аляксандр КАРАНЕЎСКІ.**

### Верталёт над Нараччу

МЯДЗЕЛ. На Нарачанскія азёры можна паглядзець і з верталёта. Гэтыя паслугі адпачываючым прапануе сталічная фірма. Месціцца яе база на невялікім кавалку зямлі паблізу курортнага пасёлка Нарач. 10 хвілін палёту абыдуцца ў 10 долараў ЗША.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Алёна Рыбік зноў перамагла

АСТРАВЕЦ. Дыплом першай ступені конкурсу студэнцкіх і вучнёўскіх работ "Скарына ў маім уяўленні" атрымала выпускніца дзевятага класа СШ№2 райцэнтра Алёна Рыбік. Узнагароду з Мінска перадаў прафесар Адам Мальдзіс, былы кіраўнік Навукова–асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны – арганізацыі, якая праводзіла гэты конкурс.
Сёлета Алёна ўжо была пераможцай абласной і рэспубліканскай алімпіяд школьнікаў па беларускай мове. Яна складае вершы, у сааўтарстве з астраўчанінам Аляксандрам Якіменкам піша песні, удзельнічае ў школьным тэатры моды "Пралеска". Нядаўна Алёна паступіла ў філалагічны клас ліцэя пры БДУ.

**Аддзел інфармацыі.**

### Павесялімся

МАЛАДЗЕЧНА. У праграме абласнога кірмашу, які пройдзе ў горадзе ў суботу 15 ліпеня запланаваная насычаная культурная праграма.
Сярод калектываў, якія будуць выступаць на пяці канцэртных пляцоўках горада прафесійныя і аматарскія мастацкія калектывы са сталіцы і вобласці. Сярод артыстаў калектывы Мінскіх абласных драматычнага і лялечнага тэатраў з Маладзечна, маладзёжнага тэатра "Балаган" з Плешчаніцаў, ансамбля народнай песні "Сваякі" з Валожына, фальклорных ансамбляў з розных куткоў Маладзечаншчыны і вобласці. Выступленні пачнуцца аб 11–й гадзіне раніцы, а завершацца канцэртам майстроў мастацтваў з Мінска і феерверкам ўвечары.

**Аддзел інфармацыі.**

**18.07 па станцыі Маладзечна адмяняюцца электрацягнікі адпр. у Мінск 13.41 і прыб. з Мінска 14.44.**



### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 15 ліпеня**

**Мінск**
17 - 19°С (уначы)
21 - 24°С (удзень)



**Вільня**
12°С (уначы)
24°С (удзень)



**Нядзеля, 16 ліпеня**

**Мінск**
11 - 15°С (уначы)
24 - 28°С (удзень)



**Вільня**
15°С (уначы)
19°С (удзень)



# Гісторыя пачалася ў Ашмянах?

## Знікненне Дзмітрыя Завадскага мае свой пачатак

**7 ліпеня ў раёне аэрапорта Мінск-2 бясследна знік аператар Грамадскага расійскага тэлебачання (ОРТ) Дзмітры Завадскі. У апошні раз яго бачылі ў пятніцу раніцай, калі ён прыехаў у аэрапорт сустракаць калегу Паўла Шарамета. Пазней аўтамабіль, на якім Завадскі прыехаў у аэрапорт, быў знойдзены прыпаркаваным ля будынку аэравакзала, але самога Завадскага ні ў машыне, ні побач не аказалася. На момант падрыхтоўкі матэрыялу да друку інтэнсіўныя пошукі журналіста нічога не далі.**

### Гісторыя пачалася ў Ашмянах

На самой рэчы гісторыя з імёнамі Шарамета і Завадскага пачалася 22 ліпеня 1997 года паблізу Каменнага Логу, што ў Ашмянскім раёне. Тады здымачную групу ОРТ, у якую ўваходзілі Павел Шарамет і Дзмітрый Завадскі, затрымалі беларуская пагранічнікі. Прычына: парушэнні правілаў прабывання ў пагранічнай зоне.

На падставе адзнятага матэрыялу ў праграме "Время" быў паказаны сюжэт аб тым, што граніцу паміж Беларуссю і Літвой, дэмаркацыя якой не завершаная, лёгка могуць перайсці кантрабандысты або іншыя нелегалы.

**Працяг на 2-й стар.**



Аператар здымачнай групы ОРТ Дзмітрый Завадскі за работай.

Фота з архіва «РГ».

## Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# Ці будзеце вы на кірмашы?



– На кірмашы будзем. Чакаем прыезду людзей і жадаем, каб яны былі задаволеныя нашай працай і прадукцыяй. Дзякуючы кірмашу, у людзей будзе добры настрой.

**Антаніна Сухадолец, намеснік дырэктара ВКФ "Белкампексім–М".**



– Я, натуральна, пайду на кірмаш, бо становішча абавязвае. Наша школа ўдзельнічае ў арганізацыі некалькіх выстаў. У кірмашы я бачу прапаганду дасягненняў горада у галінах тэхнікі, культуры, духоўнай. Ці патрэбны ён? Уражанне дваістае: пры недахопе фінансаў можна падумаць, што не патрэбны, але я лічу, сродкі акупяцца. А як дырэктар, удзячны, што, дзякуючы кірмашу, адрамантавалі школу.

**Віктар Куханчык, дырэктар СШ №4.**



– Збіраюся наведаць кірмаш. Цікава будзе паглядзець, што выпрабляецца ў іншых гарадах. Спадзяюся на ніжэйшыя цэны. Кірмаш патрэбны хаця б таму, што да яго горад прыводзяць у парадак, і настрой у маладзечанцаў будзе святочны. Не замінала б такія штогод праводзіць.

**Аляксандр Розум, вядучы спецыяліст па прафкансультацыі і прафарыентацыі.**



– На кірмашы буду, нягледзячы на надвор'е. Добра, што выплацілі своечасова зарплату, пагуляць грошы будуць. Хацелася б, каб цэны надта не "кусаліся".

**Дзмітрый Бельскі, слесар–рамонтнік лакаматыўнага дэпо.**

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

# Гісторыя пачалася ў Ашмянах?

## Знікненне Дзмітрыя Завадскага мае свой пачатак

Пачатак на 1-й стар.

Завадскаму і Шарамету інкрымінавалася незаконнае перасячэнне беларуска–літоўскай граніцы, "здзейсненае групай асоб па папярэдняй змове". Супраць журналістаў была ўзбуджаная крымінальная справа. У выніку абодва работнікі тэлебачання на судзе ў Ашмянах былі асуджаныя да пазбаўлення волі. Умоўна, з адтэрміноўкай на адзін год.

Падзеі, якія разгортваліся ў Ашмянах, выклікалі скандал у сусветным грамадстве. Сталі вельмі напружаныя адносіны прэзідэнтаў Ельцына і Лукашэнкі. Пасля пасяджэння Гродзенскай абласной калегіі, якая па сутнасці нічога не змяніла ў прыгаворы, Павел Шарамет сказаў: Так, як праследвалі нас, нікога ў Беларусі пакуль не праследвалі... Падчас судовага паседжання спецыяльна не стаў выступаць.

Менавіта гісторыя ў Ашмянах – прычына таго, што знікненне апаратара сёння выклікала шмат каментарыяў.



Граніца з Літвой празрыстай не будзе.

Фота з архіва «РГ».

**Версіі**

Павел Шарамет лічыць знікненне калегі палітычнай справай і расцэньвае гэта як апасродкаваны ўдар па ім самім і іншых незалежных журналістах Беларусі.

Намеснік старшыні адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Замяталін выказаў думку, што расійскі журналіст быў скрадзены апазіцыяй з мэтай зганьбаваць рэпутацыю краіны, яе кіраўнікоў, праваахоўных органаў.

У журналісцкіх колах не выключаюць таксама, што знікненне Завадскага звязана з яго камандзіроўкамі ў Чачню на працягу некалькіх апошніх месяцаў.

Лідэры апазіцыі лічаць, што Завадскі быў скрадзены спецслужбамі Беларусі.

Ці прыязджаў Завадскі ў аэрапорт увогуле? Магчыма, яго машыну прыгналі без гаспадара. Гэта версія «РГ».

**Пошукі**

Пошукі пачаліся яшчэ ў пятніцу. У суботу была ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле 101 Крымінальнага кодэкса "Наўмыснае забойства". Кінолагі з сабакамі прачэсвалі лес, абзноненыя ўсе бальніцы ў радыусе 30 кіламетраў ад аэрапорта. Ніякіх вынікаў. Падобна на тое, што справа Шарамета сёння стала назвацца справай Завадскага. Пачатак якой яна бярэ ў Ашмянах.

**Мікола ГАЙДУК, Маладзечна.**



Фота IREX/ProMedia.

Уладзімір Замяталін (злева) мяркуе, што Завадскага скрала апазіцыя.

■ АКЦЫЯ

# Літаратурны экспрэс «Еўропа–2000»

**Раніцай у нядзелю ў Мінск з Масквы прыбыў «Літаратурны экспрэс «Еўропа-2000». На працягу двух дзён 140 літаратараў і перакладчыкаў і рэферэнтаў з 43 краін Еўропы былі гасцямі Мінска і Маладзечаншчыны.**

У нядзелю гасцей вітала Вязынка – радзіма Янкі Купалы. Госці і гаспадары свята чыталі свае творы, лепшыя нумары падрыхтавалі для іх музычныя і фальклорныя ансамблі і групы. Вялікую цікавасць выклікалі вырабы народных майстроў. А выручка ААТ "Белмастацкераміка" склала каля 300 тысяч рублёў (за некалькі гадзін!).



Пару стагоддзяў таму такіх рыцараў у Еўропе можна было сустрэць часта.

У панядзелак удзельнікі экспрэса правялі сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі і паэтамі. Генадзь Бураўкін у сваім выступленні заявіў: «Страшная радыяцыя дзяржаўнай хлусні і бездухоўнасці забівае таленты і можа спапяліць мову беларускага народа». Па яго словах, Чарнобыль «уеўся не толькі ў камяні і зямлю, але і ў генную памяць беларусаў», а духоўны Чарнобыль, як каразія, раз'ядае маральнасць народа. «Страшней за ўсё тое, што ўлады не хочуць верыць тым надзейным «радыёметрам», якімі з'яўляюцца беларуская літаратура і выдатныя сыны нашай зямлі», – зазначыў паэт. Па яго словах, народ, які не мае магчымасці слухаць голас такіх людзей, а слухае «заезджых палкоўнікаў ад ідэалогіі», не хутка адолее наступствы духоўнага Чарнобылю. Бураўкін выказаў спадзяванне, што літаратары Еўропы дапамогуць у гэтым сэнсе народу Беларусі.

Аўтар ідэі і арганізатар экспрэса, дырэктар Літаратурнай майстэрні ў Берліне, доктар філалогіі Томас Волфарт выказаў надзею на тое, што «у Беларусі будуць больш пісаць на беларускай мове». Па яго словах, у будучым годзе ўдзельнікі міжнароднага літаратурнага экспрэса вернуцца ў Мінск – ужо сваімі творамі, напісанымі пад уражаннем убачанага і перакладзенымі на беларускую мову.

На вечары выступілі міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, беларуская пісьменнікі, паэты і драматургі, а таксама літаратары са Славеніі, Германіі, Швецыі і Албаніі.

У аўторак а 9–й гадзіне раніцы ўдзельнікі «Літаратурнага экспрэса «Еўропа – 2000» выехалі з Мінска ў Брэст. Вынікам экспрэса стала калектыўная праца яго ўдзельнікаў – своеасаблівая анталогія літаратурнага жыцця Еўропы ў канцы XX стагоддзя. Беларускі паэт Сяргей Панізнік выказаў упэўненасць у тым, што сустрэча з удзельнікамі экспрэса пакладзе пачатак «літаратурнай дыпламатыі», якая пазнаёміць Еўропу з лепшымі ўзорамі нацыянальнага прыгожага пісьменства.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**



Фота Андрэя Каскіна.

Беларускі нацыянальны сцяг у Вязынцы адчуваў сябе ўтульна.

**Як вядома, «Літаратурны экспрэс «Еўропа-2000» праходзіць з 2 чэрвеня па 17 ліпеня пад патранажам Савета Еўропы, Еўрапейскай камісіі, ЮНЕСКА і Міжнароднага саюза чыгунак. Літаратары праедуць па маршруце, у які ўваходзяць 20 гарадоў Партугаліі, Іспаніі, Францыі, Бельгіі, Германіі, Польшчы, Літвы Латвіі, Эстоніі, Расіі і Беларусі. Канчатковы пункт маршруту – Берлін. Куратарам экспрэса ў Беларусі стаў Літаратурны музей Янкі Купалы. А беларускімі пасажырамі ў гэтым цягніку з'яўляюцца пісьменніца Вольга Іпатава, паэт Леанід Дранько-Майсюк і малады празаік Андрэй Федарэнка.**

■ ДНІ

14 ліпеня – **80 год з дня нараджэння А. Астапенкі** (1920–1970), беларускага паэта.

15 ліпеня – **90 год з дня нараджэння Змітра Віталіна** (сапр. Дзмітрый Сергіевіч; 1910–1940-ыя гг.), беларускага паэта.

**100 год з дня нараджэння У. Дубоўкі** (1900–1976), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

**590 год таму** (1410) **адбылася Грунвальдская бітва.**

16 ліпеня – **60 год з дня нараджэння** (1940) **Н. Загорскай,** беларускай паэтэсы, перакладчыцы, публіцыста, літаратурнага, тэатральнага і кінакрытыка.

20 ліпеня – **120 год з дня нараджэння Гальяша Леўчыка** (сапр. Ілья Ляўковіч; 1880–1944), беларускага паэта–лірыка.

■ ВЕРНІКІ

## Праваслаўны канцэрт у каталіцкім касцёле

МЯДЗЕЛ. Упершыню тут адбыўся дабрачынны канцэрт: збіралі сродкі на працяг будаўніцтва царквы, бо цяпер служба праходзіць у звычайным прыстасаваным доме.

Выступіў вакальны квінтэт духоўнай песні, а дзеці чыталі вершыкі. Канцэрт праходзіў у мясцовым касцёле.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЛЕТА

## Германскае аздараўленне

ВАЛОЖЫН. Каля 10 год супрацоўнічаюць валожынцы з нямецкім хрысціянскім саюзам малады людзей. Вынікам сустрэч з'яўляюцца і паездкі валожынскіх дзяцей на аздараўленне ў Германію.

З дапамогай саюза сёлета з'ездзіць на адпачынак за мяжу 135 школьнікаў. З васьмі груп пакуль паехалі чатыры, а сёння плануецца адправіць чарговую партыю дзяцей.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ МЯЖА

## На мяжы ідзе дэмантаж электронна–сігналізацыйнай сістэмы

**ГРОДНА. Дэмантаж электронна-сігналізацыйнай сістэмы распачаўся на ўчастку дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, які абслугоўвае Гродзенскі пагранічны атрад. Яго праводзяць самі пагранічнікі.**

Мяркуецца, што пасля дэмантажу асноўным сродкам кантролю за незаконным перасячэннем мяжы застанецца кантрольна-следавая паласа. Пагранічнікі таксама спадзяюцца на дапамогу ў ахове мяжы з боку мясцовага насельніцтва. Зняцце калючага дроту дазволіць надаць мяжы больш цывілізаваны выгляд і, апрача ўсяго, эканоміць значныя сродкі на яе абслугоўванне. Раней пагранічнікам нярэдка даводзілася выязджаць на розныя ўчасткі мяжы дарэмна, калі электронна-сігналізацыйныя сістэмы рэагавалі на праходжанне жывёл.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

■ ПРАФСАЮЗЫ

## Застаецца запазычанасць па зарплаце ў адукацыі

**МІНСК. Праблемы запазычанасці па зарплатах беларускім педагогам абмеркаваныя на пасяджэнні галіновага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях Міністэрства адукацыі і ЦК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі. У ім браў удзел міністр адукацыі Васіль Стражаў.**

Удзельнікі нарады канстатавалі, што запазычанасць па адпускных практычна не зніжаецца. На канец чэрвеня, прыкладам, настаўнікі недаатрымалі 3,7 мільярда рублёў, з якіх 3,6 мільярда складалі адпускныя. У некалькіх раёнах Мінскай вобласці па стан на 30 чэрвеня не была выплачаная зарплата за май. А ў большасці раёнаў краіны педагогі не атрымалі аванс за чэрвень.

У выніку гэтага многія педагогі, зарплата якіх у сярэднім складае 42,7 тысячы рублёў, не могуць рабіць камунальныя плацяжы, нават нармальна харчавацца. У знак пратэсту многія адмаўляюцца ісці ў адпачынак. Спробы некаторых работнікаў адукацыі звярнуцца ў органы пракуратуры, напрыклад, у Старадарожскім раёне Мінскай вобласці, ні да чаго не прывялі. З пракуратуры раёна паступіла адпіска, а пракуратура вобласці працягла час захоўвае маўчанне.

Кіраўніцтва Міністэрства адукацыі праінфармавала ўдзельнікаў пасяджэння, што ў 4 вобласці накіраваныя датацыі для пагашэння даўгоў па зарплаце.

Паводле вынікаў пасяджэння прынята рашэнне, што органы народнай адукацыі і камітэты прафсаюзаў усіх узроўняў, прыцягваючы дэпутатаў мясцовых саветаў, будуць адсочваць рух выдзеленых датацый, таму што з розных рэгіёнаў ідзе інфармацыя, што выдзеленыя сродкі выкарыстоўваюцца мясцовымі ўладамі не па прызначэнні. Прафсаюзным камітэтам усіх узроўняў рэкамендавана прадастаўляць у органы дзяржаўнага кантролю звесткі аб фактах затрымак зарплат.

На пасяджэнні абмяркоўваліся пытанні выканання галіновага пагаднення за першае паўгоддзе, факты бясплатнага прыцягнення настаўнікаў і выхавацеляў дзіцячых садкоў да сельскагаспадарчых работ. На думку членаў прэзідыума рэспубліканскага камітэта прафсаюзаў, падобная практыка з'яўляецца незаконнай і павінна быць спынена.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

■ НАШЫЯ ІНТЭРВ'Ю

# «Я даўно спаліў за сабою ўсе масты»

**МАЛАДЗЕЧНА. Станіслаў Багданкевіч у канцы чэрвеня на паўдня завітаў у горад. На пытанне пра яго сябра Уладзіміра Куля ("РГ" пісала пра маладзечанскі перыяд жыцця будучага старшыні Нацбанка і Аб'яднанай грамадзянскай партыі) крыху збянтэжана ўсміхнуўся: "Калі ўбачыце, перадайце прывітанне – заехаць не паспею. Як, дарэчы, і да сясцёр з братам..."**


Фота Дзмітрыя Харытонава.

Наведванне Станіславам Багданкевічам горада было кароткім: бывайце, маладзечанцы, даруйце, да каго не змог заехаць.

– Я – ганаровы старшыня АГП, маю права прадстаўляць партыю і рабіць ад яе імя заявы, – адразу папярэдзіў ён.

Прасіць рабіць заяву не хацелася, таму гаворка пайшла пра апошнія змяненні ў складзе кіраўнікоў "аб'яднаных грамадзянаў". Якім чынам, усё ж такі, адбывалася замена кіраўніка адной з самых уплывовых (па сцвярджэннях сацыёлагаў, другое месца ў краіне; першае займае жаночая партыя "Надзея") палітычных партый краіны?

– Я сышоў сам. Год таму запатрабаваў сабе замену. Галоўная прычына – надакучыла галеча партыі. Я стаміўся шукаць грошы на арэнду памяшканняў, паездкі, аплату паслуг сакратара... Гэта пры тым, што ў нашых шэрагах 22 дэпутаты Вярхоўнага Савета XIII склікання, тры генералы, нават КДБ ёсць (смяецца – аўт.).

**– Аналітыкі сцвярджаюць, што да кіраўніцтва партыі прыйшлі радыкалы.**

– Так, Лябедзька радыкал, аднак ён канструктыўны. З'езд АГП, дзе мяне «з работы знялі», улічваў, што новы старшыня – мая кандыдатура. Хаця, прыкладам, віцебская арганізацыя была супраць яго нага абрання. А радыкаламі нас усіх робіць улада. Кім вы можаце стаць, калі ў ваш офіс з дзесятак разоў уварвецца АМАП?

**– Гродзенскую абласную арганізацыю некаторы час узначальваў Валерый Леванеўскі. Пракаментуйце, калі ласка, абставіны ягонага сыходу з пасады.**

– Леванеўскага таксама ў свой час прапанавала на пасаду былая старшыня Гродзенскай арганізацыі. Мы на яго спадзяваліся. Прыкладам, Гомельшчына і Магілёўшчына маюць адпаведна 17 і 16 раённых арганізацый, а Гродзеншчына – толькі тры. Усе, дарэчы, у вашым рэгіёне – Астравец, Ашмяны і Смаргонь. Валерый абяцаў расшырыць гэтае кола, але ў выніку прадстаўнікі ўсіх раёнаў выказалі яму недавер за тое, што не займаецца бягучай работай. Я прапанаваў Леванеўскаму добраахвотна пакінуць пасаду, але пайсці працаваць членам палітсавета партыі. Той адмовіўся, маўляў, народ яго любіць, таму ён застаецца.

**– Леванеўскі шмат крытыкаваў Сямёна Домаша, абвінавачваў яго ў зрастанні з вертыкальнымі ўладамі.**

– Так, негатыву на калег ён даў шмат. Але Домаша, пра якога вы згадалі, падтрымліваюць усе. Мы выключылі Леванеўскага, хаця асабіста я гэтага вельмі не хацеў.

**– Але ж ён прапанаваў шмат чаго разумнага.**

– Заўважце, на ніве прадпрымальніцкага руху. Мы і папрасілі яго займацца прадпрымальніцтвам.

**– Вось і давайце пагаворым пра эканоміку.**

– Я лічу, у нас была моцная эканоміка – 6 год разбураем і ніяк не можам разбурыць.

**– А якія ў вас крытэрыі яе ацэнкі? Ва ўсім свеце, калі валавы ўнутраны прадукт расце, то і людзі больш заможна жывуць. А мы жабракамі становімся.**

– Парадокс. У 1998 годзе 33% беларусаў мелі даходы ніжэйшыя за жыццёвы мінімум, сёлета ўжо 47%. А вытворчасць расце. Зразумела, што неабходна мінімізаваць ролю дзяржавы ў эканоміцы, калі ўжо мы не ўмеем кіраваць. Ярмошын нядаўна прыводзіў лічбы: 38% прадпрыемстваў і 80% калгасаў – стратныя. Па сусветных паняццях, мы банкруты. Хаця ёсць і свае плюсы: знешняя запазычанасць у нас адносна невялікая, не больш за 1 мільярд долараў. Гэта таму, што ніхто не дае. Без інвестыцый у прамысловасць нам не выбрацца, а для гэтага неабходна памірыцца з МВФ, міжнародным банкам. Пры аўтарытарызме гэта немагчыма.

**– А што ў стасунках з Расіяй? Хто нам сёння замінае нешта купляць там ці прадаваць?**

– Я некалі прапанаваў расіянам: аб'яднайцеся вы спачатку з Далёкім Усходам. А яны мне ў адказ: дык вы ж самі лезеце! І зліццё, пра якое цяпер шмат гаворыцца, нічога не дасць. Акрамя арміі новых чыноўнікаў. Каб умацаваць супрацоўніцтва з Расіяй, неабходна, у першую чаргу, павышаць якасць нашых тавараў. Інакш расійскія рынкі пойдуць на Захад. Наогул, неабходна праводзіць нацыянальную палітыку. Мы ж цяпер заключаем мытны саюз з Таджыкістанам (0,01% леташняга гандлёвага тавараабароту), Кіргізіяй (0,03%), Казахстанам (менш за 1%). А навошта? Чыноўнікаў, дарэчы, у нас, у пераліку на душу насельніцтва, больш, як у Расіі, у два разы.

**– Якое вашае стаўленне да восеньскіх выбараў (гутарка адбывалася да вядомага рашэння апазіцыйных партый не ісці на выбары – аўт.)?**

– Сабраць яшчэ адну сесію АГП і там вырашаць, ці ёсць умовы для выбараў, ісці на іх ці не ісці. Я прапанаваў уключыць мяне ў ЦВК: мы хочам, каб лічылі сумленна.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

■ МЕРКАВАННІ

## Беларускі фон горада

Прыгожае робіцца з дэталяў. Лічу, што цэнтральная вуліца Маладзечна Вялікі Гасцінец мусіць быць беларускім фонам.

Між тым, гараджане і госці бачаць тут "Детский мир", шматлікія "магазины", "Телефон–телеграф". Беларускія літары і літовец, і немец, і рускі прачытаюць.

**Аляксандр САЛАГУБ, Маладзечна.**

■ ПАЛІТЫКА

## Аргкамітэт Усебеларускага з'езда заклікаў грамадзян Беларусі абараніць незалежнасць дзяржавы

**МІНСК. Аргкамітэт Усебеларускага з'езда за незалежнасць распаўсюдзіў 500 тысяч улётак са зваротам да грамадзян Беларусі і заклікам абараніць незалежнасць беларускай дзяржавы.**

Аўтары тэксту ўлёткі прапануюць захаваць сяброўскія адносіны з Расіяй, «але як дзяржава з дзяржавай, раўнапраўна і годна». «Мы не жадаем быць нічыім рэгіёнам, нічыёй акругай», – гаворыцца ў звароце.

Яго аўтары заклікаюць усіх, «хто жадае быць гаспадаром у сваім доме», падтрымаць Усебеларускі з'езд, «які прыме Акт Незалежнасці Беларусі».

Аргкамітэт з'езда прапаноўвае грамадзянам краіны аб'яднацца, забыць пра непаразуменне і крыўды напярэдадні гэтага форуму, які запланаваны на 29 ліпеня.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

# Адгукніцеся, калі ласка

**ВІЛЕЙКА. У гісторыка–краязнаўчы музей звярнуўся з просьбай мінчанін Юрый Буднік, які нарадзіўся ў Вілейцы напярэдадні вайны і жыў тут са сваімі бацькамі па вуліцы Савецкай. Яго бацька, Яфрэм Рыгоравіч Буднік, 1908 года нараджэння, ураджэнец вескі Ручаёўка Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці, са студзеня 1940 года па чэрвень 1941 працаваў інструктарам–кантралёрам, а затым галоўным бухгалтарам Вілейскага абкома партыі. У гады вайны – партызан атрада імя М. Кутузава, загінуў 18 красавіка 1943 года пры выкананні задання ў м. Крывічы.**

Маці, Буднік (Фаміна) Паўліна Паўлаўна, 1914 года нараджэння, ураджэнка вёскі Раўковічы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці, пасля заканчэння Мінскага медыцынскага інстытута ў верасні 1939 года была накіраваная на работу загадчыцай Лядынскага ўрачэбнага ўчастка Чэрвенскага раёна, потым пераведзеная ў Вілейку па месцы работы мужа. Працавала загадчыцай станцыі хуткай дапамогі. 18 снежня 1943 года Паўліна Буднік, вяртаючыся з вёскі Пашкоўшчына Мядзельскага раёна, дзе аказвала медыцынскую дапамогу хворай жыхарцы гэтай вёскі Леанардзе Тонкавіч, загінула ад выбуху міны ў м. Крывічы. У павозцы разам з ёй знаходзіліся муж хворай, Іван Тонкавіч, які быў цяжка паранены і пазней памер, а таксама яе малалетні сын Юрый, які цудам застаўся жывы, быў цяжка кантужаны. Выхадзіла яго Яўгенія Карпава, якая ў той час працавала фармацэўтам у Куранецкай аптэцы, цяпер жыве ў Сімферопалі. Пасля вайны Юрыя забрала да сябе яго бабуля ў г. Першамайск Адэскай вобласці.

Больш за ўсё турбуе Юрыя Будніка невядомасць. Як і чаму так здарылася? Нічога не вядома пра лёс маці ў перыяд ад пачатку вайны і да часу яе гібелі. Дзе жыла, чым займалася, чаму апынулася на Мядзельшчыне?

Шаноўныя чытачы! Калі хто з вас ведаў, чуў пра Буднік Паўліну Паўлаўну (дзе знаходзілася і чым займалася з чэрвеня 1941 па снежань 1943 г.г.), просім адгукнуцца. Будзем вельмі ўдзячныя за любую інфармацыю.

Адрас: **Вілейка, пл. Свабоды, 8. Гісторыка–краязнаўчы музей. Тэл. 56405.**

**Вольга КОЛАСАВА, старшы навуковы супрацоўнік музея.**


Фота з альбома Рыгора Будніка.

Паўліна (Фаміна) Буднік з сынам Рыгорам напярэдадні вайны. Вілейка.

■ СТАЛІЦА

## Па заказе сталічнай адміністрацыі вучонымі будзе распрацаваная канцэпцыя кіравання Мінскам

**МІНСК. Мінгарвыканком даручыў вучоным распрацаваць канцэпцыю кіравання Мінскам у сучасных умовах і на бліжэйшую перспектыву. Такое даручэнне кіраўнік сталічнай адміністрацыі Міхаіл Паўлаў даў падчас пашыранага пасяджэння вучонага савета Мінскага навукова-даследчага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем.**

Вучоны савет, у складзе якога вядомыя акадэмікі і члены-карэспандэнты Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Пётр Нікіценка, Уладзімір Бабкоў і некаторыя іншыя, падтрымаў новага старшыню Мінгарвыканкома ў імкненні абапірацца на навуку ў кіраўніцтве такім буйным гарадскім комплексам, якім з'яўляецца беларуская сталіца.

На савеце інстытута, які ўзначальвае член-карэспандэнт НАН Беларусі прафесар Уладзімір Бабкоў, абмяркоўваліся таксама праблемы распрацоўкі прагнозу і праграмы навукова-тэхнічнага развіцця Мінска; кіравання нерухомасцю; развіцця рынку платных паслуг; удасканальвання аналізу і прагнозу грамадска-палітычнай сітуацыі ў горадзе і іншыя.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

 



■ ПЕРШАЯ ЛІГА

# Лідэры аступіліся

**08.07 Нёман (Масты) – Маладзечна 4:1 (2:1)**

Галоўны арбітр К. Дайлід (Брэст), 1500 гледачоў.

**Галы**: (1), (21), (69), (82); Тартоўскі (6).

**Папярэджанні**: Сысой (3), Тартоўскі (2).

Шаўроў Турчыновіч
Міхалёў
Крывіцкі (Млечка, 65) Тартоўскі
Бычкоўскі
Муравейнікаў (Міранові, 62)
Сысой Рагуновіч
Каўтуноўскі (Лукін, 77)
1 Рубацкі

На здзіўленае пытанне пра нечаканасць падобнага выніку **Людас Румбуціс** адказаў, што гэта самая сапраўдная нечаканасць і ёсць. Па гульні каманда выглядала не горш, чым у некаторых іншых матчах, а вось такога "чорнага дня" яшчэ ніколі не здаралася.

Прапусцілі вельмі хуткі гол, прыкладна на 20-й секундзе. Адыграліся, калі **Міхалёў** абвёў трох сапернікаў выдаў пас уразрэз на **Тартоўскага**, якому заставалася толькі абыграць галкіпера. На жаль, флангавая атака гаспадароў з прастрэлам у цэнтр завяршылася зрэзкай **Муравейнікава** ў свае вароты. Пасля перапынку **Млечка**, які выйшаў на замену, што называецца, "прывёз" яшчэ два галы сваёй камандзе.

Нефартовасць мінулай суботы для маладзечанцаў яскрава праявілася і пры дзеяннях у атацы. Прыгожы ўдар **Турчыновіча** прыйшоўся ў штангу, не пашанцавала ў выдатных момантах **Бычкоўскаму** і **Міхалёву**.

Што тычыцца кадравых праблем каманды, то ўжо займаецца па індывідуальным плане **Кабельскі**, а вось у **Багайчука** сітуацыя нявызначаная. Праз тыдзень павінен вярнуцца **Мігас**. Л. Румбуціс расказаў, што ў яго ёсць магчымасць узяць у арэнду добрых футбалістаў, напрыклад, з Бабруйска альбо Мінска, але ў хуткім часе іх прыйдзецца аддаваць назад. Таму трэнер хоча якасна арганізаваць ланцужок падрыхтоўкі мясцовых маладых футбалістаў. Зразумела, галоўны крок – гэта прыдаць "Забудове" статус фарм-клуба. Прычым, Людас Румбуціс гарантуе, што, пры дапамозе "Маладзечна" і яго асабістай у арганізацыі трэніровачнага працэса, чысцінцы пакінуць апошні радок у табліцы.

Вейна-Днепр – Орша 1:2, Керамік – Трактар 3:0 (тэхнічнае за непрыезд), Хімік – Палессе 4:0, Лунінец – Рагачоў-ДЮСШ-1 1:1, ЗЛіН – Тарпеда 0:1, Зорка-ВА-БДУ – Дынама-Юні 2:4, Граніт – Свіслач-Дах 1:3.

**Турнірная табліца**

| | |
|---|---|
| **1. Маладзечна** | **30** |
| 2. Граніт | 25 |
| 3. Лунінец | 25 |
| 4. Тарпеда | 25 |
| 5. Свіслач-Дах | 23 |
| 6. Орша | 22 |
| 7. Керамік | 21 |
| 8. Рагачоў-ДЮСШ-1 | 21 |
| 9. Нёман | 19 |
| 10. Дынама-Юні | 17 |
| 11. Зорка-ВА-БДУ | 16 |
| 12. Трактар | 15 |
| 13. ЗЛіН | 11 |
| 14. Хімік | 9 |
| 15. Вейна-Днепр | 5 |
| 16. Палессе | 1 |

Бамбардзіры: **Турчыновіч**, Правалінскі (Орша), Шушкевіч (Зорка-ВА-БДУ) – па 8; Вадз. Байко (Керамік), Грыгор'еў (Хімік) – па 7; **Міхалёў** і іншыя – па 6.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**15.07 16-00 Смаргонь – Забудова**

+3=2-0 8-4. У першым крузе "Забудова" – "Смаргонь" 0:1 (Юркевіч)

**16.07 18-00 Маладзечна – Граніт (Мікашэвічы)**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# Чэмпіянат краіны

**08.07 Арбіта (Мінск) – Забудова 0:1 (0:0)**

**Гол**: Макрыцкі (66).

**Склад**: Буглак, Касцюкевіч, Відрук, Гулевіч, Івашкевіч, Д. Мятліцкі (Абановіч, 87), Антановіч (Рыгаровіч, 71), Татун (Смірноў, 46), Дараховіч, Макрыцкі (М. Мятліцкі, 89), Казяк (Нядзелька, 90).

**08.07 Смаргонь – Верас (Нясвіж) 1:1 (0:0)**

**Галы**: Селіванаў (64-пен); (83).

**Склад**: Пясецкі, Ал. Канапелька, Селіванаў, Якубіцкі, Юркевіч, Максіменка (Д. Курак, 67), Дукса, Апяцёнак (Макей, 80), Дзігілевіч (Жабінскі, 86), Карабінскі, Відук.

Дарыда – Акадэм-Славія 3:1, РВАР – Лакаматыў 0:3, Старыя Дарогі – РШВСМ-Алімпія 1:0, Дынама-2 – Азерцы 2:3.

# Кубак краіны

**12.07 Забудова – Нафтан-Дэвон (Наваполацк) 1:0 (1:0)**

**Гол**: Гулевіч (32-пен).

**Склад**: Буглак, Нядзелька (Касцюкевіч, 46), Балыкін, Гулевіч, Івашкевіч, Абановіч (Д. Мятліцкі, 46), Лявончык, Татун (Смірноў, 63), Дараховіч, Макрыцкі, Казяк.

На 86-й хвіліне Тараканаў (Нафтан-Дэвон) не рэалізаваў пенальці.

Вастрыні ля абодвух варотаў за ўвесь матч было створана нямала. Першы тайм праходзіў у роўнай барацьбе, чысцінцы не збіраліся "чапляцца" за нулі на табло (ды і сілаў на дадатковы час не хапіла б), каманды раз-пораз пранікалі ў штрафную саперніка. Праз паўгадзіны пасля пачатку матча **Татуну** ўдаўся выдатны пас з цэнтра поля на **Макрыцкага**, які паспеў пракінуць мяч паўз галкіпера, а той яго збіў. Пенальці ўдарам на сярэдняй вышыні побач з правай штангай (варатар кінуўся ў іншы бок) рэалізаваў **Гулевіч**. Ля варот "Забудовы" пажар узнікаў тройчы, але два разы выратаваў **Буглак**, а пасля розыгрышу свабоднага метраў з пятнаццаці госці трапілі ў сценку.

Апошняя пяціхвілінка была для чысцінцаў проста шчаслівай. Памылка **Дараховіча**, які недакладна адпасаваў назад, прывяла да таго, што **Касцюкевіч** паставіў у сваёй штрафной саперніку падножку. Лідэр гасцей **Тараканаў** біў пенальці ў правы бок пад перакладзіну, але яна нібы магнітам прыцягнула да сябе мяч. Потым яшчэ быў выхад навапалачаніна сам-насам з Буглаком, які завяршыўся гульнявым сутыкненнем і пракацііўшымся побач са штангай мячом.

**12.07 Смаргонь – Дынама (Брэст) 0:1 (0:1)**

**Гол:** (9).

**Склад:** Пясецкі, Васілеўскі, Шагойка, Якубіцкі, Юркевіч, Ал. Канапелька (Максіменка, 69), Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч (Апяцёнак, 89), Карабінскі, Д. Курак (В. Курак, 80).

Па ходзе матча зусім не адчувалася, што гуляюць каманды рознага класу, прадстаўнікі розных ліг. Смаргонцы не скарысталі шмат добрых момантаў. Напрыклад, **Дукса** відушча біў галавою ў далёкі кут, але няўдала. Не пашанцавала ў яшчэ адной галявой сітуацыі **Карабінскаму**.

Забілі брастаўчане выпадковы гол. Іх флангавы прастрэл у складаным становішчы, хаця ўжо страхаваў **Селіванаў**, імкнуўся перахапіць **Васілеўскі**. Мяч адскочыў на нагу нападаючаму гасцей, і той дакладна прабіў у далёкі кут.

Тры з паловай тысячы гледачоў засталіся задаволеныя дзеяннямі сваёй каманды, нягледзячы на паражэнне, бо яно было зусім не па гульні.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНАЛІЗ

# Другая ліга: ў падвале і на каленях

**Каманды нашага рэгіёна выступілі ў першым крузе зусім не так, як можна было планаваць наперад. Звязана гэта, у першую чаргу, з павышэннем класа камандсаперніц, тады як нашым землякам вырасці не ўдалося. Плюс праблемы, што не дазволілі згуляць на леташнім узроўні.**

Падзеі, што спадарожнічалі правалу "Забудовы", ужо раскрываліся на старонках "РГ". Апошняе месца ёсць апошняе месца. Напэўна, трэнеры зробяць правільныя высновы, а гульцы папрацуюць над сабой. Перспектыва ёсць. Пра гэта сведчыць і нарэшце атрыманая перамога, і спробы кіраўнікоў змяніць лёс каманды.

"Смаргонь" апынулася не ў такой бездані, аднак задача на сезон з кожным турам становіцца ўсё больш недасягальнай. Галоўны трэнер **Андрэй Майсейчанка** адзначыў, што слаба згуляла атакуючая лінія. Калі ж не забіваеш ты, то атрымліваеш у свае вароты. Яскравы прыклад – прайграны матч з дынамаўцамі. Не ўдалося набраць "свае" ачкі ў нічыйных сустрэчах з "Арбітай" і "Старымі Дарогамі".

Вера ў больш паспяховае выступленне застаецца. Звязана гэта з тым, што пазбавіліся шматлікіх студэнцкіх клопатаў многія гульцы. Па вясне і ў чэрвені шмат часу аддавалі вучобе маладыя **Дукса**, **Карабінскі** і **В. Курак**, яшчэ трое футбалістаў завяршылі сваю вышэйшую адукацыю – завочнік **Дзігілевіч** (АФВіС) і вочнікі **Д. Курак** (БДЭУ) і **Апяцёнак** (БАТУ). Апошні, дарэчы, атрымаў "чырвоны дыплом".



Фота Юрыя Карпіцкага.

«Забудова» - «Смаргонь», першы матч сезона.

**Усе галы:** Селіванаў, Дараховіч – па 3; Карабінскі, Відук, Антановіч, Макрыцкі – па 2;

Юркевіч, Шагойка, Дукса, Дзігілевіч, Чарнель, Балыкін, Татун – па 1.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дарыда | 8 | 0 | 3 | 17-11 | 24 |
| 2. Лакаматыў | 6 | 4 | 1 | 23-11 | 22 |
| 3. Верас | 6 | 2 | 3 | 12-10 | 20 |
| 4. РШВСМ-Алімпія | 5 | 4 | 2 | 16-8 | 19 |
| 5. Акадэм-Славія | 5 | 2 | 4 | 17-11 | 17 |
| 6. Азерцы | 5 | 2 | 4 | 19-20 | 17 |
| 7. Дынама-2 | 5 | 0 | 6 | 16-19 | 15 |
| 8. Старыя Дарогі | 4 | 1 | 6 | 11-17 | 13 |
| 9. Смаргонь | 3 | 4 | 4 | 11-13 | 13 |
| 10. Арбіта | 3 | 2 | 6 | 11-17 | 11 |
| 11. РВАР | 2 | 2 | 7 | 9-17 | 8 |
| 12. Забудова | 1 | 3 | 7 | 10-18 | 6 |

**Бамбардзіры:** Карасёў (Лакаматыў) – 7; Сачышын (РШВСМ-Алімпія), Лагутка (Дарыда) – па 6.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ

# Футбол ва ўсёй сваёй прыгажосці

**Гэтыя нататкі ўзніклі, у першую чаргу, ад жадання падзяліцца шматлікімі ўражаннямі ды эмоцыямі, на якія так багаты быў Euro-2000.**

Чэмпіянат, лічу, атрымаўся. У мацнейшых каманд на высокім узроўні была ўся трыяда гульнявых кампанентаў: функцыянальная падрыхтоўка, тактычныя напрацоўкі, тэхнічнае абыходжанне з мячом. Калі параўнаць цяперашні футбол з тым, які быў некалькі дзесяткаў гадоў таму, напрошваецца відавочная выснова. Справядліва лічыцца, што з сучасных футбалістаў толькі **Зідана** можна прыблізна параўнаць са славутымі "тэхнарамі" мінулага **Пеле**, **Гарынчай**, **Круіфам**, **Плаціні**, **Марадонай**. У плане тактыкі цяпер мяняюцца толькі дэталі, а "татальны футбол", запатэнтаваны галандцамі, ужо нікуды не дзенецца. Узрастае ж на недасягальныя раней вышыні фізічны стан гульцоў, іх магчымасць адбегаць увесь матч, пазмагацца ў кожным эпізодзе. Напэўна, дапамагае тут прагрэс навукі, як у плане вывучэння рэзерваў чалавечага арганізма, так і наконт прымянення біялагічных адноўнікаў.

Еўрапейскі сезон (па сістэме восень-вясна), які цяпер завяршыўся, у гэтым плане проста ўразіў. Прапанаваная UEFA раздзьмутая па колькасці матчаў Ліга Чэмпіёнаў так натрэніравала футбалістаў, што яны выдалі бліскучую канцоўку сезона, складзеную з плэй-оф ЛЧ, сенсацыйных апошніх тураў некаторых мацнейшых чэмпіянатаў краін (Італія, Германія) і, нарэшце, Euro-2000. Натуральна, нешта падобнае назіралася і раней, натуральна, многія клубы мелі па два склады, каб падзяліць нагрузкі паміж гульцамі (а той жа Зідан за зборную згуляў куды лепей, чым за клуб), натуральна, можа здарыцца, што ў наступным сезоне будзе менш падставаў для такіх хвалебных слоў, аднак асноўная тэндэнцыя развіцця футбола відавочная.

Вялікае значэнне набывае псіхалагічная падрыхтаванасць футбалістаў. Зідан здолеў забіць вырашальны пенальці на апошніх хвілінах паўфінала з партугальцамі, а іспанец **Рауль** у чвэрцьфінале прамахнуўся. Спасаваў і **Дэль П'ера**, які двойчы выходзіў сам-насам з **Бартэзам** у фінальным матчы. Тут жа блізка знаходзіцца паняцце "фарту", нейкай вышэйшай сілы ў футболе, якая так дапамагла югаславам супраць славенцаў, іспанцам супраць югаславаў, французам у фінале. Асобна стаіць паўфінал Італія-Галандыя. Матч, у якім перамагла каманда, што больш за дзевяноста хвілін правяла ў меншасці. Матч, у якім гаспадары стадыёна не забілі пяць пенальці з шасці. Той выпадак, калі характар і парадак б'юць клас гульні ў атацы.

Аднак, калі б гэта здарылася двойчы запар, калі б майстры прыгожай атакі французы не сталі чэмпіёнамі, было б, напэўна, няправільна. Правільны шлях развіцця футбола пацвердзіў гол **Вільтора** за лічаныя секунды да свістка, які (свісток, натуральна) мог быць апошнім на турніры. Але гэты эвалюцыйны шлях, падобна на тое, можа зайсці ў тупік. І год праз дзесяць-дваццаць нас чакае рэвалюцыя. Магчыма, павялічацца памеры поля. А год праз сто, калі людзі навучацца лятаць (напрыклад, з мініяцюрнымі маторчыкамі за спінамі), футбол можа стаць і трохмерным. Пажывем-пабачым.

Цяпер крыху пра асобных футбалістаў, гульнявыя амплуа і судзейства. Сярод варатароў лепшым быў, безумоўна, італьянец **Тольда**. Пацвярджаецца перавага высокіх, але каардынаваных галіпераў.

У абароне галоўным з'яўляецца ўменне ўзаемападстрахоўкі, якая найлепш праяўляецца пры дзеяннях у "лінію". Прычым, французы будавалі не прамую, а нейкую ламаную. Не даваў прайсці сябе італьянец **Неста**, фенаменальна падключаліся да атакі французы **Лізаразю** і **Цюрам**.

Паўабарона прызвычайваецца дзейнічаць без краініх хаўбекаў. Іх ролю выконваюць і крайнія абаронцы, і нападаючыя, адыходзячы назад. Менавіта ў цэнтры поля гуляюць лепшыя сучасныя футбалісты Зідан, партугалец **Фігу**, галандзец **Давідс** і ўсе тыя, ў каго, вобразна кажучы, "два сэрцы". Нападаючым застаецца толькі чакаць (можна паспрабаваць і стварыць) і ў лічаныя імгненні ператвараць у гол спрыяльныя шанцы. Для гэтага патрэбна нябеснае майстэрства, да якога блізкія француз **Анры**, партугалец **Нуну Гомеш**, галандзец **Клайверт**, югаслаў **Мілошавіч**, славенец **Захавіч**.

Вельмі цяжка суддзям. Дзіўна, чаму яны дагэтуль не з'яўляюцца прафесіяналамі. Памылкі каштуюць дарага, а прыняць правільнае рашэнне бывае проста немагчыма, напрыклад, пры шчыльнай таўкатні ў штрафной, калі кожны імкнецца сімуліраваць. На гэтым чэмпіянаце практычна не было памылак, якія б пашкодзілі выніку матча. Падобную сітуацыю ў выпадку з гульнёй рукой партугальцам **Шаўерам** удалося пазбегнуць, дзякуючы новым рэкамендацыям, па якіх бакавы арбітр мее права актыўна дапамагаць галоўнаму. Усе спрэчныя судзейскія рашэнні альбо пасіўна паўплывалі на ход матчаў, альбо былі звязаныя са складанасцю трактоўкі правілаў, альбо былі кампенсаваныя камандам у іншых матчах.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

 

■ ЗДАРЭННІ

# У паўвагоне грузавога цягніка гарэла сера

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніцой 5 ліпеня горад наведаў нічым не прыкметны грузавы цягнік №2473. Прыйшоў ён з боку Мінска на Лібаўскі парк (25 пуць). Пры прафілактычным аглядзе маладзечанскія чыгуначнікі заўважылі дым, які цягнуўся ад тарца дзевятнаццатага вагона.**



Фота Юрыя Карпіцкага

У паўвагоне, які ішоў з Аксарыйска Прыволжскай чыгункі ў адрас Шылайняй Літоўскай чыгункі, самазагарэлася "сера камяковая". У паўтараметровым слоі яе было 64 тоны.

Чыгуначнікі дзейнічалі дакладна. Небяспечны паўвагон, згодна з тэхніка-распарадчым актам станцыі, адагналі ў 46 тупік, што ў раёне горкі.

Адкрытага агню не было, і невялікі ачаг загарання ліквідавалі за гадзіну–паўтары. Прычым спецыялістаў з пажарнага аварыйна–выратавальнага атрада (ПАВА) чыгуначнікі не выклікалі.

Непасрэдны ўдзельнік ліквідацыі загарання, намеснік начальніка Маладзечанскай стралкова–пажарнай каманды Мінскага атрада ваенізаванай аховы **Пётр Гатоўка** гаворыць, што на ліквідацыі працавала 5 чалавек.

Пасля здарэння грузу суткі далі "адстаяцца" ў Маладзечне, затым серу "пералапацілі", вагон прычапілі да цягніка і ён рушыў па сваім далейшым маршруце. Графік руху чыгуначнага транспарту па станцыі Маладзечна парушаны не быў, шкодных наступстваў для жыцця людзей і навакольнага асяроддзя не зафіксавана.

Здарэнне выклікала некалькі пытанняў, не на ўсе з якіх удалося атрымаць адказ. Перавозімая сера – тугаплаўкая, загарэцца можа ад кантакту–сутыкнення з невялікай колькасцю вады (вялікім жа аб'ёмам вады яе якраз і патушылі), але спачатку павінна расплавіцца. Па правілах транспартавання падобных грузаў, забароны на перавозку ў паўвагоне няма (хаця гэта і не зусім лагічна: у адкрытым паўвагоне, нават пад пакрыццём, накшталт тэнту, заўсёды захоўваецца небяспека кантакту з вадой). У цягніку было вытрымана належнае прыкрыццё з 8 вагонаў жалеза (каб іскра ад цеплавоза не трапіла); таксама якраз на выпадак крытычнай сітуацыі побач не было лёгкаўзгаральных рэчываў.

Здаецца, нічога "супрацьзаконнага". Тым не менш, інфармацыю пра інцыдэнт некаторыя адказныя асобы, да якіх звярталася "РГ", імкнуліся схаваць. Спасылаліся на адсутнасць дакладных звестак, гаварылі, што "нічога сур'ёзнага". Застаецца здагадвацца, чым пагражаў магчымы пажар. Удалося, у прыватнасці, высветліць, што непадалёку знаходзіўся састаў з бензінам.

Пры загаранні сера выдзяляе таксічныя рэчывы (яе едкі дым, мусіць, знаёмы многім), таму ліквідатары загарання працавалі ў сродках аховы.

**Юрый КАРПІЦКІ,**
**аддзел інфармацыі.**

Супрацоўнік Маладзечанскай лабараторыі экалагічнага кантролю **Сяргей Фрэнкель** гаворыць, што, акрамя насення, якое абкурваюць серай, больш ніхто карысці з яе не мае. Пры гарэнні выдзяляецца дым, які сцелецца па зямлі і хутка ўзаемадзейнічае з вадой. Атручанні можа выклікаць дыяксід серы, але толькі калі яго колькасць перавысіць дапушчальныя канцэнтрацыі. А пакуль гэтага не атрымалася, ї лабараторыю больш турбуюць прамысловыя прадпрыемствы горада, якія выкідваюць у паветра такія ж самыя рэчывы.

Памочнік начальніка штаба грамадзянскай абароны Маладзечанскага раёна **Віктар Даўгарукаў** упэўнены, што ніякай небяспекі загаранне не несла дзякуючы аператыўнай рабоце пажарных.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 6 ліпеня | 13 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 690,00 руб. | **715,00** руб. |
| Нямецкая марка | 336,76 руб. | **346,95** руб. |
| Літ | 172,52 руб. | **178,81** руб. |
| Расійскі рубель | 24,61 руб. | **25,63** руб. |
| Злоты | 159,26 руб. | **167,19** руб. |
| ЕЎРА | 658,64 руб. | **678,57** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | 6 ліпеня | 13 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 970 – 980 руб. | **970 – 980** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 05.07 | 12.07 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1250 | **1260** |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4490 | **4500** |
| Сасіскі, 1 кг | 1404 | **1404** |
| Рыс, 1 кг | 330 | **330** |
| Грэчка, 1 кг | 575 | **550** |
| Цукар, 1 кг | 380 | **400** |
| Алей, 1 л | 680 | **680** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 370 | **380** |
| Маянэз, 250 г | 150 | **150** |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | **900** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 270 | **270** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 250 | **250** |
| Лімоны, 1 кг | 980 | **980** |
| Апельсіны, 1 кг | 500 | **550** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 300 | **380** |
| Морква, 1 кг | 350 | **300** |
| Капуста, 1 кг | 250 | **250** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 600 | **700** |
| Масла, 1 кг | 1600 | **1600** |
| Тварог, 1 кг | 550 | **450** |
| Малако, 1,5 л | 200 | **200** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 500 | **500** |
| Пятрушка, 1 пучок | 50 | **50** |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 50 | **40** |
| Кроп, 1 пучок | 50 | **50** |
| Салата, 1 пучок | 50 | **30** |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | **600** |
| Бульба маладая, 1 кг | 300 | **200** |
| Морква маладая, 1 пучок | 150 | **70** |
| Абрыкосы, 1 кг | 1000 | **1100** |
| Персікі, 1 кг | 1100 | **1100** |
| Маліны, малое вядро | | **5000** |
| Чорныя парэчкі, малое вядро | 4500 | **4000** |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 2000 | **1500** |
| Агрэст, малое вядро | 3500 | **3000** |
| Чарніцы, малое вядро | 4000 | **4000** |
| Вішня, малое вядро | 4500 | **3500** |

■ ПРАБЛЕМА



Фота Юрыя Карпіцкага.

# Як накарміць дзіця за 500 рублёў у суткі?

**МАЛАДЗЕЧНА. У сакавіку дзіцячыя садкі горада зведвалі перабоі з пастаўкай масла, мяса, цукру. Нядаўна, у адпаведнасці з лістом фінансавага аддзела гарвыканкома, аддзел адукацыі ўвёў нормы харчавання не ў калорыях, а ў рублях (на 1 чэрвеня лічбы складалі 370 рублёў у яслях і 485 рублёў на чалавека ў садках).**

У садках сцвярджаюць, што гэтыя нормы не адпавядаюць патрэбнасцям дзіцяці. З'явілася нават думка, што, у адпаведнасці з загадам аддзела адукацыі, сума, якая пераўзыходзіць ліміт, будзе знятая з заработкаў загадчыкаў садкоў.

У аддзеле адукацыі раяць садкам больш уважліва падыходзіць да фарміравання меню сваіх маленькіх наведвальнікаў. Маўляў, калі ўсё зрабіць правільна, то грошай хопіць. Іншыя сцвярджаюць, што ў некаторых садках і гэтыя грошы асвойваюцца не поўнасцю.

Тым не менш, загадчыкі садкоў склалі ліст на імя загадчыка аддзела адукацыі аб тым, што ўвядзенне грашовых нормаў абсурднае.

У панядзелак у аддзеле адукацыі прайшла нарада, на якой прысутнічалі загадчыкі садкоў і медработнікі. Тэхнолаг **Алена Слабыш** пазнаёміла з распараджэннем гарвыканкома, у якім гаворыцца пра неабходнасць захоўвання грашовых нормаў. Таксама паступіла пісьмо, у якім указана, што "перарасход бюджэтных сродкаў недапушчальны".

– Цяперашнія нормы ўстаноўленыя міністэрствам фінансаў сумесна з міністэрствам адукацыі, – патлумачыла галоўны бухгалтар **Ірына Кабан**.

Яна запэўніла, што перагляд нормаў у бок павелічэння у бліжэйшы тэрмін не прадбачыцца.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Напіткі «Каларыту» сталі лепшым прадуктам года

**МАЛАДЗЕЧНА. СП "Каларыт–Lida" працуе на рынку Беларусі і Расіі з 1995 года. У мінулым месяцы вырабы прадпрыемства былі прадстаўлены ў дзвюх выстаўках. Падрабязней расказвае пра яго дырэктар Сяргей Рагозін:**

– У сярэдзіне чэрвеня мы бралі ўдзел у трэцім міжнародным конкурсе мінеральных вод і безалкагольных напояў, дзе выставілі мінеральную ваду "Геляноўская–2". Яна атрымала сярэбраны медаль.

**– "Геляноўская-2" адрозніваецца ад "Геляноўскай"?**

– Новую ваду мы толькі рыхтуем у масавую вытворчасць. Яна будзе пастаўляцца са свідравіны, размешчанай на тэрыторыі прадпрыемства. Першую "геляноўскую" мы завозілі з санаторыя ў Сасновым Бары. У новай вадзе, акрамя ўсяго, прысутнічае фтор, які, як вядома, карысны для прафілактыкі зубных захворванняў.

**– Хто атрымаў перамогу ў той намінацыі?**

– Расійская мінеральная вада ЗАТ "Каўмінводы", яна са Стаўрапольскага краю.

**– Дзе яшчэ спаборнічалі вашы напіткі?**

– У конкурсе беларускай экалагічнай партыі зялёных і таварыства абароны спажыўцоў, што праходзіў у канцы чэрвеня, нашы напіткі "Апельсін", "Лімон", "Зялёны яблык" сталі лепшым прадуктам года.

**– Чаму другая палова назвы вашага прадпрыемства пішацца лацінскімі літарамі? Напэўна, гэта нямногім вядома.**

– Справа ў тым, што наша прадпрыемства сумеснае. Замежным сузаснавальнікам яго выступае польская фірма "Lida". Так што назва прадпрыемства не мае дачынення да беларускага горада, як можна меркаваць з-за суседства Маладзечна і Ліды.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Адзіны ў Астраўцы завод святкуе юбілей

**АСТРАВЕЦ. У мінулую пятніцу адзіны ў Астраўцы прамысловы завод "Радыёдэталі" адзначаў 30–годдзе. Праграма свята была традыцыйная: урачысты сход і канцэрт.**

Прысутнічалі прадстаўнікі галоўнага прадпрыемства: смаргонскага аптычнага станкабудавання (ЗАСа), філіялам якога і з'яўляюцца "Радыёдэталі". Павіншаваць астраўчан прыехалі намеснік генеральнага дырэктара ЗАСа **Уладзімір Касакоўскі** і намеснік старшыні аб'яднанага прафкома **Таццяна Сташкевіч**. Ад мясцовай улады прысутнічала намеснік старшыні райвыканкома **Ірына Шляхтун**.

Усім работнікам завода была прызначаная невялікая прэмія і ўручаныя падарункі. Дзевяць чалавек разам з юбілеем завода святкавалі і свой юбілей у арганізацыі, паколькі роўна трыццаць год таму ўладкаваліся сюды на работу.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

# Дадатковы чорны заработак

АСТРАВЕЦ. Ягадны бум пачаўся, як толькі паспелі чарніцы. Старыя і малыя ці не кожную вольную хвілінку аддаюць лесу, бо за кожны кілаграм чорнай ягады раённая нарыхтоўчая кантора, да прыкладу, плаціць тысячу рублёў. Прыём чарніц арганізаваны ў Астраўцы шырока. Прымаюць і прыватнікі, якія, па жаданні, плацяць "натурай" – цукрам. Крыху прыпазніўся з арганізацыяй і прыёмам чарніц лясгас, хаця за кілаграм ягад ён прызначыў крышачку большую цану – 1050 рублёў. Таму вечарамі ля іх ларка пуста не бывае.

Хоць сёлетні год лічыўся і маласпрыяльным для ягад – вясеннія замаразкі і засуха ў многіх месцах не дазволілі завязацца плоду – у асобных лясах чарніц урадзіла багата. Як паведамілі ў райнарыхтоўканторы, гэтай ягады тут назапашана 26,6 тоны.

**Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## На будаўніцтве загінуў рабочы

МАЛАДЗЕЧНА. На будаўніцтве катэджа, які ўзводзіцца ў раёне гаражнага кааператыва №21, загінуў 18-гадовы юнак.

Прычынай смерці стаў электрычны ток. Хлопец нейкім чынам патрапіў у ваду, праз якую і праходзіў электраток.

**Аддзел інфармацыі.**

## Алкагольнае насланнё

МЯДЗЕЛ. Нядаўна «за ўжыванне ў рабочы час» тут развіталіся з пасадамі старшыня райвыканкома і ягоны першы намеснік. Той самы лёс, здаецца, спасціг і яшчэ аднаго намесніка старшыні – **В. Звяругу**. Для агляду супрацоўнікі ДАІ яго спачатку даставілі ў Вілейскую бальніцу, а затым завезлі ажно ў Мінск. Тры гадзіны чыноўніка «каталі» на службовым аўтамабілі.

**Аддзел інфарімацыі.**

## Забойства ў доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых

АСТРАВЕЦ. Жорсткае забойства ўчынена ў Варнянскім доме-інтэрнаце для псіханеўралагічных хворых, які размешчаны ў вёсцы Дубнікі. Каля пяці гадзін раніцы адзін з пацыентаў напаў на суседа па палаце і металічнай дужкай ад спінкі ложка нанёс яму некалькі ўдараў па галаве.

На месца злачынства аператыўна выехалі пракурор і начальнік райаддзела міліцыі. У той жа дзень забойца быў накіраваны ў абласную псіхіятрычную бальніцу.

Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 101 Крымінальнага кодэкса – «Наўмыснае забойства».

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

